ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 39 (2565)
ПЯТНІЦА
24
верасня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



## Брэсцкая цытадэль...

Яе абаронцы зрабілі першы крок да вялікай Перамогі. Паміраючы, нараджаліся яны для бессмяротнасці. Пра іх складзены легенды, напісаны песні, зняты кінафільмы. Ім —людзям надзвычайнай мужнасці — прысвечаны гэты мемарыял.

Днямі ў Брэсцкай крэпасці-герої адбудзецца ўрачыстае адкрыццё велічнага помніка тым, хто першы даў адпор фашысцкай навале. Над стварэнием мемарыялу працаваў творчы калектыў скульптараў і архітэктараў на чале з А. Кібальнікавым, А. Бембелем і У. Каралём.

На здымку—фрагмент помніка.







**Кветкамі сустрэла ўдзельнікаў семінара моладзь Оршы (здымак уверсе).**

**У госці да «семінарыстаў» прыехаў мастацкі кіраўнік аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» Б. Сарахатунаў.**

**У саўгасе «Забалоцце» ўдзельнікі семінара сабралі тры тоны яблык (здымак справа).**

# ПЕРАД ВЯЛІКАЙ ДАРОГАЙ

### ШТО НАРАДЖАЕЦЦА Ў СПРЭЧКАХ!..

Мастакі і архітэктары сышліся на семінары бліжэй за ўсіх. Можа таму, што было ў іх шмат агульных «балючых» пытанняў, можа таму, што разам рабілі сатырычную насценгазету «Зялёны шум», а можа таму, што менавіта яны— мастакі і архітэктары — найгарачэй абмяркоўвалі свае работы, найгарачэй спрачаліся, высвятляючы, за кім у арганізацыі сучаснага інтэр'ера павінна заставацца «права прыма» — за архітэктарам альбо за мастаком.

— Мы з мастакамі не на роўных,— даводзіў старшы архітэктар Інстытута «Белкамунпраект» Валодзя Кузьменка,— мы выношваем, абдумваем кожную драбніцу інтэр'ера. Нас хвалюе перш за ўсё яго агульны стыль, настрой. Мы бачым яго як адзінае цэлае. Мастака ж перш-наперш цікавіць сцяна, якую ён павінен распісаць. А ці патрэбен роспіс у гэтым інтэр'еры?.. Можа ён тут увогуле недарэчы?.. Паспрабуйце скажыце пра гэта мастаку — ого! На роспісы ды на чаканку найбольш высокія расцэнкі. Чаго ж дзівіцца, што за апошні час амаль ва ўсіх інтэр'ерах роспіс і чаканка — галоўныя элементы аздаблення.

— Вы патрабуеце зашмат,—пярэчыць яму малады кераміст Саша Зіменка,— па-першае, давайце прасочым, калі мастак пачынае працаваць над інтэр'ерам. Ужо тады, калі амаль усё зроблена і засталася толькі тая самая сцяна, на якой нічога, акрамя роспісу, зрабіць нельга. А калі б мастак разам з архітэктарам пачынаў працаваць з самага пачатку?..

Вось паглядзіце інтэр'еры ў мінскім рэстаране «Патсдам». Асабліва звярніце ўвагу на маленькі белы пакой. Як прыгожа на белых сценах побач з белай, крыху архаічнай мэбляй, выглядае вельмі сучасны эстамп. Здавалася б, дробязь, учарашні дзень у афармленні, не тыя маштабы, а гэтыя карцінкі ствараюць інтымныя абставіны ў невялічкім, усяго на дзесяць чалавек, пакойчыку, надаюць яму высакародства. Значыцца, можна абысціся і без роспісу. Трэба толькі загадзя ўсё прадумаць і выканаць тактоўна, згодна з функцыямі таго ці іншага памяшкання...

— Усё гэта так,— бярэ слова Яўген Фарбераў з «Белкамунпраекта».— Але мы, архітэктары, у жалезных цісках; з аднаго боку — план, з другога—заказчык. Часта ў заказчыка няма грошай, каб вырашыць інтэр'ер у комплексе, і ён спачатку патрабуе зрабіць архітэктурнае рашэнне, а мастацкае аздабленне зарэзерваваць на потым. Мы разумеем, што такая практыка—заганная і трэба адмовіцца працаваць на такіх умовах, але... план. Вось так і з'яўляюцца сцены, зарэзерваваныя пад роспіс.

Акрамя таго, мы не на роўных з мастакамі і ў чыста фінансавых адносінах. Часта здараецца так, што па нашых эскізах мастак робіць аздабленне, атрымлівае ладныя грошы, а мы... працуем за дзякуй. Даўно ўжо наспела нейкім чынам вырашыць гэтае канфліктнае пытанне. Мастакі разумеюць, што без архітэктара і ў рабоце над інтэр'ерам, і над помнікам ім немагчыма абысціся. Але дагавор Мастацкі фонд заключае толькі з мастакамі. Пачынаюцца прыватныя дамаўленні і прыватныя разлікі.

— Канечне, было б выдатна, каб можна было наладзіць нейкія майстэрні, з моцнай вытворчай базай, у якіх маглі б працаваць разам мастакі і архітэктары,—марыць Гары Мазураў з Гродна.

— А навошта новыя майстэрні, —смяецца выкладчык політэхнічнага інстытута, кандыдат архітэктуры Анатоль Занеўскі.— Такія майстэрні ёсць. І называюцца яны мастацка-вытворчым камбінатам Мастацкага фонду БССР. Трэба толькі, каб архітэктар меў там такія ж паўнамоцтвы, як і мастак.

### 24 ГАДЗІНЫ НА КІНО...

Кіно пачалося зранку. Завесілі коўдрамі вокны ў сталовай, пачапілі на сцяну экран, наладзілі «Украіну» і чатыры гадзіны, аж да самага абеду, нас «кармілі» дакументальнымі, вучэбнымі, навукова-папулярнымі, рэкламнымі фільмамі...

Усё было... І праектар заядаў, і плёнка рвалася, вось толькі фільмаў добрых было не шмат, відаць, узялі ў кінапракаце, што трапілася пад руку. Пасля абеду планавалася абмеркаваць фільмы, але абмяркоўваць тое, што мы пабачылі, было цяжка. Таму гаворка пайшла агульная, пра тое, чаму мала здымаюцца ў кіно беларускія акцёры, чаму так мала паўнацэнных сцэнарыяў, чаму не трымаюцца на «Беларусьфільме» добрыя рэжысёры. Але і гэтая гутарка неяк «завяла», бо Ігар Дабралюбаў, які вёў яе, яўна недааацаніў падрыхтаванасць аўдыторыі. Дзень кіно

---

**З пошты ЛіМа**

# І ГЭТА — ВЫСТАВАЧНАЯ ЗАЛА

Нядаўна чытачы мінскай масавай бібліятэкі № 11 сустрэліся з народным мастаком БССР З. Азгурам. Адбылася цікавая гутарка аб шляхах развіцця выяўленчага мастацтва Беларусі. А вось калі З. Азгур пацікавіўся, ці наведваюць удзельнікі гутаркі наш Дзяржаўны мастацкі музей і розныя выстаўкі твораў мастакоў у Мінску, дык высветлілася: наведваюць, але рэдка.

Я разумею: гэта вельмі кепска, што многія мінчане, асабліва моладзь, рэдка наведваюць музей і выстаўкі або зусім не бываюць на іх. Разумею таксама, што знаёмства з унікальнымі калекцыямі нашага музея не могуць замяніць ніякія іншыя выпадковыя сустрэчы мінчан з творамі выяўленчага мастацтва, якія адбываюцца ў часе не такіх ужо — скажам шчыра! — частых выставак у фае кінатэатраў, філармоніі і г. д.

І ўсё ж глыбока перакананы, што шлях шырокаму гледачу ў наш музей, на нашы вялікія выстаўкі здольны пракласці шматлікія «партатыўныя» выстаўкі твораў выяўленчага мастацтва, якія маглі б быць актыўней, чым сёння, набліжаны да гледача.

Давайце прыгадаем: у свой час імпрэсіяністы наладжвалі выстаўкі ў кафэ; вернісаж славутай карціны Куінджы «Ноч» адбыўся на спецыяльна нанятай дзеля гэтага прыватнай кватэры; карціны Урубеля Горкі ўбачыў упершыню на Ніжнегародскім кірмашы...

У наш час у Мінску, горадзе амаль з мільённым насельніцтвам, выстаўкі, апрача музея, наладжваюцца ў памяшканнях Саюза мастакоў, салона-магазіна, клуба пісьменнікаў, у фае кінатэатраў, філармоніі, тэатраў, на паасобных прамысловых прадпрыемствах, як, напрыклад, у горадзе аўтамабілебудаўнікоў Жодзіне ў часе сёлетняга Тыдня выяўленчага мастацтва.

І ўсё ж выставак у Мінску мала. І ўсё ж яны кепска рэкламуюцца. Трэба знайсці яшчэ выставачную плошчу для «партатыўных» выставак. Ды, уласна, шукаць не трэба — яна ёсць. Трэба толькі, каб яна, гэтая плошча, не пуставала.

Сапраўды, колькі ў Мінску адных толькі клубаў!.. Колькі кінатэатраў! Колькі іншых прыдатных грамадскіх устаноў у мікрараёнах сталіцы!.. Іх трэба скарыстаць пад выстаўкі. Неабходна!..

Уявіце сабе, як няпроста пасля рабочага дня трактарабудаўніку і аўтамабілебудаўніку дабірацца да музея ці салона, якія, дарэчы, досыць рана закрываюцца. А ў нядзелю ён не заўсёды прыгадае, што някепска было б схадзіць на выстаўку.

А калі б разнастайныя выстаўкі — персанальныя, перасоўныя, самадзейнага мастацтва, фатаграфіі і да т. п. —СІСТЭМАТЫЧНА (а не ад выпадку да выпадку) экспанаваліся ў нашых шматлікіх кафэ, фае кіно і тэатраў, клубаў, памяшканнях агітпунктаў, у розных навучальных установах, установах культуры і г. д., і да т. п.!.. Гэта прынесла б немалы плён. Зразумела, пры ўмове, што такія выстаўкі спецыяльна рэкламаваліся б у друку і ў афішах. Праз гэтыя выстаўкі пашырылася б дарога гледачоў у наш музей. На гэтых выстаўках экспанаваліся б многія творы, якія пакуль што — у запасніках музеяў, у майстэрнях мастакоў гадамі ляжаць без руху...

У кожным мікрараёне горада павінны быць некалькі пастаянна дзеючых выставачных «пляцовак». Пастаянна там павінны праводзіцца сустрэчы з мастакамі каля твораў. Тым самым мы актыўней будзем выхоўваць гледача, яго разуменне сапраўднага мастацтва.

Дзеля гэтага не так ужо шмат намаганняў трэба. Павінен быць створаны спецыяльны невялікі калектыў, які б займаўся менавіта такой работай. Я не ведаю, як назваць гэты орган, але ў яго павінны ўвайсці прадстаўнікі Саюза мастакоў БССР, Міністэрства культуры, упраўлення культуры Мінгарвыканкома, грамадскіх арганізацый горада, якія і павінны вызначаць парадак арганізацыі такога роду выставак, усе арганізацыйныя моманты. Памагчы ім павінны прафсаюзы і камсамол.

І адкладаць вырашэнне гэтага надзённага пытання нельга.

**Л. ФРЫД,**
**загадчык бібліятэкі № 11 г. Мінска.**

Яўген КАРШУКОЎ



# ТРЫ АПАВЯДАННІ

## НЕМЕЦ



Грымнулі дзверы, і ў хату ўвайшоў ён... У зялёным доўгім шынялі, у пілотцы, сплюснутай блінам на галаве. На плячы вісеў аўтамат — страшэнным чорным дулам уніз.

Ён моўчкі пастаяў на парозе і нешта ціха сказаў, пазіраючы на бабулю. Нейкі «кран»... Я скоранька абвёў хату вачыма ды нідзе ніякага крана не знайшоў. Не было ў нас крана. Але бабуля зразумела немца:

— Пан... хворы?

Яна добра навучылася разумець чужакоў — колькі ўжо ўваходзіла і выходзіла іх праз гэтыя дзверы! Адны спыняліся на цэлую ноч — і тады мы ўсе спалі ў хлеве на саломе; іншыя шнырылі па хаце, лавілі ў двары курэй, патрабавалі «млека», — і бабуля пакорліва прыносіла са студні гладышы.

— А каб вы падавіліся, праклятыя, — потым ужо, калі немцы пакідалі хату, лаяла яна іх.— Каб вам... Бярыце, жарыце, толькі дзяцей не чапайце!

— Пан... «кранк»? — зноў спытала бабуля.

Ён зычліва заківаў галавой і — сеў на лаўцы, ля старога хісткага стала, нізка звесіў галаву — так нізка, што худое цела пераламалася надвое, а з-пад пілоткі густа засінелі ў яркім святле акна шэрыя зблытаныя валасы. Сноп сонечных промняў коса ўпёрся ў цёмныя патрэсканыя масніцы, а маленькія-маленькія пылінкі весела закружыліся, зазіхацелі перад доўгім гарбатым носам.

Бабуля па-ранейшаму стаяла каля немца — як сабралася на дрывотнік за трэскамі, у расшпіленай куфайцы, без хусткі, з кошыкам у руках. Я спалохана выглядаў з-за яе шырокай спадніцы, сястра ціхенька валтузілася на печы. А ён—маўчаў. Срабрыстыя пылінкі віліся ля яго жоўтага васковага носа і неахвотна садзіліся на шчаціністы хваравіты твар. Садзіліся і не блішчалі ўжо. І твар немца з жоўтага рабіўся нейкім попельна-шэрым, брыдкім і страшным...

— Бабка! — захныкала сястра на печы. — Баюся...

Бабуля павярнулася да яе, цыкнула:

— Змоўкні, Эма...

Немец скоранька ўскінуў галаву — як бы яго нехта штурхануў, няўцямна ўтаропіўся ў печ. Дзіўныя, амаль бясколерныя стомленыя вочы, халодныя і абыякавыя, раптам ажылі, вузкія пасінелыя губы задрыжалі ва ўсмешцы і твар пасвятлеў:

— Эма? О-о... Эм-ма!

Ён мітусліва палез у жоўтую скураную сумку, што вісела на тонкім раменьчыку цераз плячо, выняў зашмальцаваную кніжачку, беражна раскрыў яе, паклікаў пальцам да сябе бабулю:

— Майнэ тохтэр... Эма... Даш-ка...

Немец паказаў рукой на маю сястру, на сябе, павадзіў кніжачкай перад вачыма бабулі так, што нават я ўбачыў фотакартку кучаравай смяшлівай дзяўчынкі, — і радасна засмяяўся. Задрыжаў, заскакаў кадык на тонкай шыі, хрыплавата забулькаў ціхі смех. Гэты смех быў не такі ўжо і страшны — нібы і не немец сядзеў ля стала, нібы і не яго рукі трымалі на каленях аўтамат... І бабуля ўздыхнула, моўчкі апусціла на падлогу кошык, рыпнула дзверцамі шафкі, дастала гладыш з малаком. Паставіла на стол.

— Трынкай...

Толькі немец як бы і не чуў яе — ён ужо не смяяўся, схаваў назад у сумку кніжачку і сядзеў скурчаны, натапыраны, як падбітая варона. Сядзеў і тужліва глядзеў уніз, на прагнілую масніцыну... На гладыш з малаком не звяртаў нават увагі. Можа і не заўважыў яго. Шморгнуўшы носам, ціха ўстаў,ануры выйшаў з хаты.

У акно было відно, як, згорбіўшыся, ён павольна валачэцца па вуліцы, як цяжка чвякае сваімі кованымі ботамі па асенніх лужынах, пераваліваецца з боку на бок... І ўпершыню бабуля чамусьці не лаяла немца. Прыжмурыўшы вочы, яна пільна пазірала яму ўслед і задумліва ўсміхалася.

Быў канец вайны.

## ГЕНКА, ГЕНКА...



Вы думаеце, я адразу пазнаў яго, калі ён пераступіў парог маёй кватэры?

Па-першае, гэта быў ужо не той Самойлішын Генка, якога я ведаў, — маленькі, рыжы, у вайсковай пілотцы па самыя вушы, у доўгім салдацкім фрэнчы, што ледзьве трымаўся на худых хлапчуковых плячах. Па-другое, столькі часу прайшло з тых пасляваенных гадоў, калі мы з маці пераехалі з Міхалёўкі ў горад.

І ўсё ж гэта быў ён, Генка. Генка з Міхалёўкі. Толькі цяпер — высокі, стройны мужчына з незнаёмым густым басам.

— ...пастарэла, пастарэла мая Самойліха, не пазнаць цёткі. Сівая ўся, недабачыць. Плакала, калі я ад'язджаў. Шкада яе вельмі. А што зробіш? З сабой не возьмеш — далекавата... Вось памог ёй перакрыць дах, падлогу падрамантаваў —прагнілі дошкі... Дзядзьку Кузьму папрасіў перакласці печку. Хоць цёпла ўзімку старой будзе. У яе ж, ведаеш, якія хворыя ногі...

Так гаварыў Генка, калі ўжо мы павячэралі. Калі крышку выпілі за сустрэчу. І позірк у яго быў гэткі добры, журботны...

Сядзелі ля адчыненага акна, сонца ўжо зайшло. Моўчкі пазіралі, як паволі патухае, меркне неба — шырокая чырвона-жоўтая палоска над гарадскім паркам. Дагарае і вабіць зусім, як тое вогнішча надвячоркам. Гаманіць не хацелася. Сціханыя, задуменныя, мы доўга так сядзелі, пакуль я не прапанаваў пайсці адпачываць.

— А то яшчэ заспім... Спознішся на свой цягнік.

— Нічога, на брэсцкі паспею. Ды згодзен, давай класціся...

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# СУМЛЕННЕ НЕ МОЖА МАЎЧАЦЬ

КАЛІ савецкі чалавек трапляе ў капіталістычную краіну, ды яшчэ такую, як Злучаныя Штаты Амерыкі, ён не можа быць проста бестурботным назіральнікам. Яму не абыякава, што робіцца ў гэтай краіне, бо ад гэтага ў значнай ступені залежыць, ці яго родны край будзе жыць мірна, ці ў стане напружанасці і пагрозы вайны. Прыход Гітлера да ўлады быў быццам бы ўнутранай справай Германіі, але потым ён прынёс нам дваццаць мільёнаў людскіх ахвяр.

Цікава ведаць, як выглядае вечарам Брадвей, як апранаюцца амерыканцы, што п'юць, што ядуць... Ды ці мала цікавага ў жыцці кожнага народа. Іх звычаі, умовы жыцця могуць намі ўспрымацца або адвяргацца, але гэта быт народа і мы павінны адносіцца да яго з пашанай. У нашым жыцці таксама ёсць тое, што можа здзіўляць іншаземца. А што нам да гэтага: вам не падабаецца, а нам так добра. У Англіі, напрыклад, нас неяк запрасілі ў госці. Той-сёй з нашай дэлегацыі рашыў не вячэраць. А вярнуліся хлопцы з тых гасцей і рады былі скарынцы хлеба, якая завалялася ў дарожным чамадане. Англічанін жыве ў іншых умовах, чым мы. Назавём гэта сваім імем—у капіталістычных умовах. Ён не накрые для гасцей стол, як у нас, каб ён аж гнуўся ад пачастункаў. Ён думае пра тое, што будзе есці заўтра. А госцю ён рады і, як кажуць, чым багаты... калі ласка, шкляначку кавы.

Кастусь Кірэенка ўбачыў Амерыку зблізку. Тры месяцы ён жыў у Нью-Йорку. Ён не мінае ўсяго таго, што ёсць цікавага і прыгожага ў жыцці амерыканцаў. «Іх таленавіты розум, іх умелыя рукі збудавалі прыгожыя гарады, стварылі сусветна вядомыя цэнтры навукі і вытворчасці, забяспечылі трасы касмічным караблям, праклалі магістралі і дарогі, вырасцілі багатыя сады»,—піша К. Кірэенка. Але аўтара кнігі «Амерыка здалёку і зблізку» больш турбуе тая, другая Амерыка—краіна звярынага імперыялізму, якая здабыткі таленавітага розуму і ўмелых рук выкарыстоўвае для крывавага бізнесу, якая імкнецца разбэсціць народ і кінуць яго сыноў у вір захопніцкіх войн, знішчэння ўсяго светлага і перадавога. І тады пісьменнік з поўным правам грамадзяніна краіны, якая перанесла самы вялікі цяжар мінулай вайны, з глыбокім пераканаsuccession і страсцю паэта выкрывае імперыялістычных цемрашалаў, паказвае тую глебу, на якой яны маюць пакуль што магчымасць распаясвацца. Расавая дыскрымінацыя ў Амерыцы пераходзіць межы краіны і ідзе далей. Сёння бомбы падаюць на В'етнам, заўтра яны могуць упасці на іншыя краіны. Агні рэклам Брадвея не могуць асляпіць аўтара кнігі, прымусіць забыць пра гэта. Сумленне пісьменніка не можа маўчаць.

А як яно можа маўчаць, калі, разгарнуўшы газету не толькі на англійскай, а і на рускай і на беларускай мовах, уключыўшы тэлевізар, пісьменнік чытае і бачыць, што ўсё, што мае ў сваіх руках амерыканскі імперыялізм: золата і тэхніка, багацце і зброя, армія і тайныя шпіёнскія цэнтры, сродкі інфармацыі і наёмныя забойцы выкарыстоўваюцца з непрыкрытай мэтай адурманіць простага амерыканца, увесці яго ў зман, ачарніць сацыялізм і ў першую чаргу яго радзіму і апору—Савецкую краіну. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца і здраднікі.

Вось на экране тэлевізара С. Алілуева. «Нам давялося,—піша Кастусь Кірэенка,—быць сведкамі арганізаванага амерыканскім тэлебачаннем яе інтэрв'ю з карэспандэнтамі буйнейшых амерыканскіх газет. Як быццам даўно ссумаваўшыся па магчымасці разгарнуцца ў антысавецкай істэрыі, паны карэспандэнты не прымусілі сябе доўга чакаць. Іх нецярплівыя, наперабой адно-аднаму, з шумлівымі прыдыханнямі, пытанні нагадвалі стогн зграі ганчакоў, якія захлёбваюцца ў нястрымным запале, прадчуваючы блізкую расправу з дзічынай».

Ці хоча яна, Алілуева, вярнуцца ў Савецкі Саюз? Што яна думае пра камунізм? Якая розніца паміж жыццём у ЗША і СССР? І яшчэ шмат такіх жа, у гэтым духу, пытанняў...

Звярніце ўвагу на пытанні. «Якая розніца паміж жыццём у ЗША і СССР» Што можа адказаць здраднік перад тварам мільёнаў тэлегледачоў? Толькі ачарніць свой край. Дзеля гэтага яе і вывелі напаказ. А ты амерыканскі глядач, рабі з гэтага вывад і не крывіся, калі трэба плаціць падаткі і выдаваць грошы на барацьбу з камунізмам. Цябе бароняць ад гэтай бяды.

«Алілуева сядзела за сваім сталом, як прывязаная ці ўкопаная — піша Кірэенка. Мне падумалася, што гэта не чалавек, а нешта паўзучае. Было ўражанне, што яе постаць ляжыць распластаная на зямлі, а высіцца адна галава. Ніводнага жэсту, а толькі зрэдку віхлявы рух усім тулавам. Ніякага пачуцця на твары, ніякай думкі ў вачах, а толькі бясколерная ўхмылка, ды агідныя, сказаныя ў адной інтанацыі словы.

Адказы Алілуевай на пытанні былі поўнасцю варты яе ганебнай ролі. Адразу яскрава бачна, што гэтыя адказы загадзя ўзгоднены з амерыканскімі ўладамі і былі вядомы карэспандэнтам газет задоўга да сённяшняга інтэрв'ю. Алілуева прамаўляла іх без запінкі і так трафарэтна, як гэта робіць бяздарная інжэню, выпушчаная сыграць першую ролю. У савецкага чалавека гэтыя адказы выклікалі нават не абурэнне, а проста гідлівасць. Столькі тут было нізкапробнай хлусні і нахабства, што яна магла падзейнічаць толькі на самую адсталую, пазбаўленую праўдзівай інфармацыі амерыканскую публіку».

Мне, у час паездак за мяжу, давялося перагортваць кніжку С. Алілуевай, якую напісалі за яе—гэта адчуваеш і па стылі і па павярхоўным абыякавым веданні жыцця ў нашай краіне. Там яна (ці за яе) піша, якім цяжкім было яе дзяцінства, яна, бачыце, «ніколі не ела амараў» і вось толькі ў Амерыцы пакаштавала смак гэтай стравы. Яна пакінула дзяцей, каб пакаштаваць амараў. Я ўжо не кажу аб інтэлекце чалавека, які так піша, але гэтыя і іншыя прыклады, прыведзеныя ў кніжцы, мяне абурылі. Я не ведаю, ці еў калі Аляксандр Матросаў амараў, але ён закрыў грудзьмі амбразуру і адкрыў дарогу сваім сябрам у наступленні на лютага ворага. Я ведаю, што сотні тысяч з тых салдат, якія адстаялі волю сваёй Радзімы і аддалі жыццё за яе, елі картачную пайку хлеба, а можа і той не мелі, але не пабеглі да ворага, які абяцаў рай у палоне. І я разумею і падзяляю гнеў і абурэнне аўтара кнігі, былога франтавіка, які бачыць у Алілуевай не чалавека, а «нешта паўзучае».

А вось яшчэ адно «нешта паўзучае». Дае інтэрв'ю «баязлівы, кругленькі, маленькі, з пухленькімі ручкамі неўрастэнік» Анатоль Кузняцоў. «Вінавата бегаюць, нібы дзве загнаныя мышы, яго хітрыя вочы за тоўстым шклом акуляраў».

Кастусь Кірэенка пазнаёміўся з тым, што гаворыць і піша хіжы ўцякач. «Тое, што я там прачытаў,—піша беларускі пісьменнік,—было настолькі дробна-подленькім і трымцячым, што можна было толькі пасмяяцца з уяўнай вяліказначнасці, якую буржуазныя прапагандысты імкнуцца надаць споведзі двурушніка».

Але здраднік ёсць здраднік. Гэта не чалавек, які памыліўся, якога можна выправіць. Здрадніка не крытыкуюць, яго выкрываюць і асуджаюць. Урэшце, і тое, што з нашага асяроддзя выйшаў здраднік, не так ужо дзіўна. У бары растуць на той жа жыццядайнай глебе белыя грыбы і смярдзючыя паганкі. Баравік бярэ з зямлі спажыўныя сокі для чалавека, паганка спажывае яе адкіды. Здрада

---

К. Кірэенка. «Амерыка здалёку і зблізку». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

Жонкі дома не было: паехала на некалькі дзён да маці. Я гаспадарыў сам. Уключыў таршэр, паслаў госцю на канапе, прысунуў да яе крэсла-ложак — каб быць з Генкам побач. Перакінуліся яшчэ некалькімі словамі, пажартавалі наконт майго вымушанага «халасцяцкага» жыцця і пачалі чытаць газеты. Я не заўважыў, як стомлены Генка заснуў. Абажур таршэра цадзіў мяккае зеленаватае святло, і я выразна бачыў твар сябра, яго самога. Ён ляжаў на баку, смешна скурчыўшыся, падклаўшы абедзьве рукі пад шчаку — зусім як дзіцё. А я ніяк не мог заснуць... Успаміны перапоўнілі мяне, перанеслі на многа-многа год назад. Адклаўшы газету, пазіраў на Генкаў зеленаваты твар, і нешта трывожнае, жаласлівае варушылася ў грудзях.

Нібы на экране, вельмі блізка і выразна ўбачыў я перад сабой хлапчукоў у салдацкіх пілотках, сваіх аднагодкаў, і сярод іх Генку — у тым доўгім, да пят, нямецкім фрэнчы... Маленькі, бледнатвары (мы ўсе былі старэйшыя за яго на тры-чатыры гады), ён самотна стаіць на поплаве ля Хведаравай копанкі, жмурыць на сонцы блакітныя вачаняты і з зайздрасцю назірае за намі — як мы гуляем у партызан і немцаў. Потым баязліва падыходзіць да нашага завадзілы Адама і просіць прыняць яго ў гульню. Але Адам не прымае. Не хоча. Не любіць ён вадзіцца з пацанамі. Толькі Генкавы слёзы прымушаюць яго злітавацца.

— Ну, ладна. За немчуру сыдзеш. Чуеце, хлопцы? Ён жа сапраўдны фрыц у нас.

Мы пагардліва і ў той жа час крыху сарамліва смяемся: у нас свой фрыц! Гэта ж Генку Наўроцкая Ганна немаведама ад каго нарадзіла... Гэта ўсе ведаюць у Міхалёўцы. Усе... Нават мы, малыя. І кожны з нас з задавальненнем, з нейкай д'ябальскай зласлівасцю крычыць Генку:

— Эй, немчура!

А блакітныя Генкавы вочы толькі жмурацца... Ён усміхаецца нам неяк вінавата і здзіўлена. Ён не разумее ўсяго ўтоенага сэнсу гэтага слова, ён многа чаго не разумее. І маці сваю ён не памятае: тады ж памёрла. Ён ведае толькі, што ў яго нікога няма. Нікога, апроч спагадлівай цёткі Самойліхі, якая гадуе хлапчука.

У Генку можна кідаць «гранату», страляць з-за куста з «аўтамата»: тыр-р-р... Ён для нас — немец. Фрыц!

— Эй, немчура, чаму не падаеш? Падай! Мы цябе ранілі, — крычаць хлопцы з-за алешніку.

І Генка — падае... Пакорліва, хутка, не заўважаючы, куды ён падае, адчуваючы за сабой усё тую ж незразумелую яму віну, баючыся толькі аднаго: каб не прагналі хлопцы з поплава.

Генка не супраціўляецца, калі мы завязваем яму вочы і вядзём партызанскай сцяжынкай «на расстрэл». І — «расстрэльваем» доўгімі кійкамі-вінтоўкамі. Усміхаючыся, Генка зноў паслухмяна чмякаецца ў дарожны пыл, плюхаецца між кустоў. Нарэшце ён так выпэцкваецца, што яго цяжка пазнаць. І тады на выган выходзіць цётка Самойліха. Яна не крычыць на Генку, не б'е яго, не лае нас. Яна толькі забірае нашага «немца» дамоў і дакорліва, ціха кажа:

— Эх вы... Пашкадавалі б, ён жа без бацькі, без маці... Бессаромнікі!

На нейкі момант нам робіцца ніякавата. Але толькі на нейкі момант. Самойліха знікае ў сваёй абгарэлай чорнай хаце, і мы зноў заядла гуляем «у партызан» і «немцаў».

Нярэдка здаралася, што Генка таксама вяртаўся да нас — уцякаў ад цёткі дагульваць «фрыца»...

Не, я не мог ужо супакоіцца ад думак, заснуць... Толькі Генку не перашкаджаў, здавалася, нікольki ні раптоўны скрыгат тармазоў, ні людская гамонка пад самым акном на тралейбусным прыпынку. На грудзях у яго ўсё яшчэ ляжала разгорнутая газета з рознымі весткамі — добрымі і трывожнымі... І я не мог чамусьці адарваць позірка ад гэтай газеты, ад твару Генкі, хоць твар у яго быў як твар, звычайны. Вузкі, прадаўгаваты, з прамым тонкім носам і вострым падбародкам. Светлыя валасы ўскудлаціліся, апалі на лоб, закрылі і без таго непрыкметныя бялявыя бровы. Ён дыхаў спакойна, Генка... Можа сніў сваю самотную Самойліху — таму і твар у яго быў спакойны, лагодны. Я пазіраў на яго і цяпер пэўна ведаў, што сон не прыйдзе да мяне да самай раніцы.

## СІНІЯ КРУГІ



На рагу вуліцы стаялі двое. Стаялі і глядзелі, як паволі рушыць пахавальная працэсія...

Марозны вецер пёк, хвастаў іх пачырванелыя твары. Але яны стаялі і глядзелі, як людзі ішлі за машынай з труной. Ішлі, апусціўшы галовы, журботна слухаючы надрыўную музыку аркестра.

— Я не люблю, калі так хаваюць, — сказаў адзін, высокі, у каракулевай афіцэрскай папасе.

— І я не вельмі, — падтрымаў другі, што быў крыху ніжэйшы ростам. — Балюча гэта — вось так ісці. Трэба мо прасцей. Па-салдацку. Як на вайне... Памятаеш, як там... хавалі?

Яны ўспомнілі. Успомнілі аб прамых пападаннях, аб шалёных кулях — аб той смерці, якая салдата не здзіўляе. Аб той, якой самі не раз глядзелі ў вочы. І твары пры гэтым у іх былі звычайныя, такія, як заўсёды: нібы гаварылі проста аб надвор'і.

А працэсія рушыла наперад. Гучала тужлівая музыка. І ўсё з той жа маўклівасцю сунуўся натоўп за машынай.

— Каго ж гэта хаваюць? — узіраючыся, раптам запытаўся той, што быў ніжэйшы. — Можа нашага брата, франтавіка?

Другі, у афіцэрскай папасе, памаўчаў, а потым заклапочана сказаў, соўгаючы наском бота па свежым, ледзь прытаптаным снезе:

— Часам, брат, крыўдна бывае. Вельмі крыўдна. Чалавек, глядзіш, вайну ўсю прайшоў, жывы застаўся. Нават асколкам яго не зачапіла... Ну, не без таго, была там адна ці дзве кантузіі. Лёгкія... Пашанцавала, скажаш? Пашанцавала. Ды вось выклікаюць да гэтага чалавека ўрача надоечы — кашаль схапіў, б'е, чарцяка, у грудзях баліць... Ну, урач выслухоўвае, распытвае пра кантузіі, выпісвае па ўсёй форме нейкі рэцэпт і спачувае: нічога не зробіш, вайна дае аб сабе знаць... Вайна! А потым — пасля розных аналізаў — і яшчэ чорт ведае што гаворыць: падазрэнне на рак... Гаворыць не яму, жонцы. Але ж і ён выпадкова ўсё гэта чуе. Разумееш? Усё гэта... Цяпер вось ужо некалькі начэй не спіць. Не можа спаць... У бальніцу чаргі чакае. Які ўжо тут сон, браце! Раніцою ўстае — сінія кругі пад вачыма... І крыўдна. Уяўляеш, як крыўдна — усю ж вайну прайшоў, асколкам нават не зачапіла...

— Гэта ты пра каго? — разгублена спытаў сусед.

Той адказаў не адразу. Ён не пераставаў глядзець уніз, на начышчаны да глянцу насок бота, на шэры, выслізганы падэшвай снег... Потым, схамянуўшыся, падняў галаву і хутка сказаў:

— Гэта я табе пра аднаго знаёмага... Таксама адстаўніка. Я пра яго расказваю... А мы... Шчэ пажывём!

Абодва прыцішана засмяяліся, па-сяброўску тузанулі адзін аднаго — вунь якія мы!

Але той, што расказваў, раптам закашляўся. Моцна, да хрыпаты. Прыкрыўшы рот хусцінкай, ён калаціўся ўсім целам так, нібы нечыя рукі, учэпістыя і жорсткія, бессардэчна трэслі яго за плечы.

Сусед спалохана ашчаперыў яго — нібы хацеў падтрымаць. І ўбачыў... Зусім блізка ўбачыў бледны пакутлівы твар і сінія-сінія, амаль ліловыя кругі пад вачыма...

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

ў час вострай ідэалагічнай барацьбы — з'ява зразумелая. Працэс нараджэння і развіцця новага грамадства, фармаванне новага чалавека не абыходзіцца без страт.

Аўтара, як і нас, чытачоў, у даным выпадку больш абурае: як гэтае «нешта паўзучае», якое цяпер называецца панам Анатолем, як гэтая паганка не была своечасова заўважана. Вось гэта крыўдна і невыбачальна. «Мяне па-сапраўднаму засмуціла і ўразіла, — піша Кастусь Кірэенка, — усведамленне таго, як мы ў сваім Саюзе часта церпім патуранне настырнаму націску амаральнага эгаізму. Ну, няўжо ж ніхто не раскусіў яго баязлівай двуаблічнасці? Упэўнены, што многія бачылі, ведалі, разумелі. Але маўчалі. Адны — думаючы: «Навошта чапаць, будзе смярдзець», а другія: «Ат, неяк абыдзецца...»

Грамадская ўсхваляванасць, адказнасць пісьменніка за сказанае, надрукаванае, пушчанае ў эфір слова адчуваецца ў кожным радку кніжкі. «Я слухаў у Нью-Йорку самарэкламнае выступленне аднаго пісьменніка-турыста, чуў яго двухсэнсоўныя адказы на правакацыйныя пытанні, — піша Кастусь Кірэенка. — І дзіву даваўся: як можна, выступаючы ў логаве капіталістычнага свету, забывацца, што ты — не проста турыст, не проста індывідуум, а савецкі пісьменнік, савецкі грамадзянін, камуніст, які павінен высока несці сцяг камуністычнай прынцыповасці».

З глыбокай цеплынёй і ўдзячнасцю піша Кірэенка аб савецкіх дыпламатах, якія ў вельмі складаных умовах адстайваюць у ААН палітыку міру Савецкай краіны. Сам Кірэенка быў адным з пасланцоў ад Беларусі на сесію Генеральнай Асамблеі ААН і бачыў, з якой цяжкасцю даводзіцца прадстаўнікам сацыялістычных краін дабівацца карысных для ўмацавання справы міру рашэнняў. Як справіўся са сваімі пачэснымі абавязкамі дыпламата, Кірэенка не піша, але яго кніжка і змешчаныя ў верасвнёўскім сшытку «Полымя» вершы з будучай кніжкі сведчаць аб тым, што савецкі пісьменнік плённа і натхнёна папрацаваў для справы міру і ідэйнага перакананя тых, хто не бачыў Амерыкі зблізку.

Вартасць кніжкі і вершаў Кастуся Кірэенкі аб Амерыцы не ў колькасці тых фактаў і з'яў, якія ён назіраў у Амерыцы, а ў той прынцыповай і пераканаўчай ацэнцы, якую дае паэт. Нас цікавіць і хвалюе Амерыка, якую ён, Кірэенка, бачыць зблізку. Яго роздум і глыбокае чалавечае хваляванне.

Рэчаіснасць, з якой сустрэўся ў Амерыцы Кірэенка, хоць і змрочная, але не безнадзейная. Пісьменнік бачыць і сілы, якія зацята змагаюцца за тое, каб «вярнуць Амерыку чалавеку», і аддае ім цеплыню свайго сэрца.

Я быў з амерыканцамі,
людзьмі ў рабочых робах,
На сёмай авеню.
Дзяліў нароўні з ім і
гнеў іх, і жалобу
На сёмай авеню.

«Таварышы, я з вамі, на сёмай авеню» — заканчвае свой верш паэт.

У вершы «З пісьма дадому» аўтар пытае сябе: ці паклала знаходжанне ў Амерыцы на душу яго які знак, і адказвае паэтычнымі радкамі:

Ой, паклала, ой, паклала —
Даражыць святлом зямлі,
Дзе маці калыхала.

Даражыць святлом зямлі, бо «Мы — самыя свабодныя, самыя шчаслівыя людзі на свеце» — ужо радкамі прозы гаворыць паэт. У вершаваных і празаічных радках аб сучаснай Амерыцы Кастусь Кірэенка як бы прымусіў нас разам з ім панавому ацаніць тое, чаго мы дасягнулі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, даражыць нашай цудоўнай явай і адстойваць яе ў меру сваіх сіл і здольнасцей.

Кніжка Кастуся Кірэенкі «Амерыка здалёку і зблізку» напісана з гарачым палемічным запалам і глыбокім перакананнем пісьменніка-грамадзяніна. У гэтым вартасць і карысць яе для чытача і асабліва маладога.

**Л. ПРОКША.**

# ПАМЯЦЬ СЭРЦА

Усё больш выходзіць у нас кніг аб партызанскай барацьбе, паўней і выразней становіцца карціна ўсенароднага змагання з фашысцкімі захопнікамі. У апошнія гады мы ўведалі пра партызанскую эпапею асабліва многа, дзякуючы ўспамінам сведкаў і ўдзельнікаў гераічных падзей. І кожнае такое сведчанне мае асаблівую вагу: гэтыя ўспаміны — каштоўны дакументальны матэрыял, што дапаўняе гісторыю партызанскага руху. Але пісаць такую кнігу — вялікая адказнасць. Нельга схібіць, нельга памыліцца, трэба пісаць сэрцам...

Івану Паўлавічу Крыскаўцу ёсць што ўспомніць. Ён яшчэ з даваеннага часу журналіст, а падчас фашысцкай акупацыі быў рэдактарам Клічаўскай падпольнай раённай газеты, потым загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі Магілёўскага падпольнага абкома партыі, выконваў абавязкі рэдактара падпольнай абласной газеты «За Радзіму». Бываў ён у многіх партызанскіх атрадах, палках, брыгадах, удзельнічаў у многіх баях.

Сваю кнігу «Сустрэчы ў Цераболі» Іван Паўлавіч пісаў памяццю сэрца. Ён хацеў не проста пераказаць «былыя баі і паходы», але і выявіць сам дух народнага змагання, узнавіць абставіны і падзеі праз узаемадачыненні людзей. Адразу заўважаеш, што аўтар свядома імкнецца да ўсебаковага асвятлення партызанскай барацьбы. Ён не ўпрыгожвае факты, не ўтойвае цяжкасці, аднак і не перабольшвае іх. Ён не забываецца, што вораг быў не толькі жорсткі, але і хітры, вынаходлівы.

У кнізе шырока паказана ідэалагічная работа партызан сярод насельніцтва, барацьба супраць варожай прапаганды.

«У жніўні 1943 года ў Бярэзіне, — расказваецца ў нарысе «Куляй і словам», — з'явілася група, якой камандаваў нейкі Бачароў, а начальнікам штаба быў Сямёнаў. Яны называлі сябе «народармейцамі». Задума карнікаў была не зусім арыгінальная, але каварная. Яны былі апрануты ў чырвонаармейскую форму, камандзіры прычапілі кубары і шпалы — гэта каб падкрэсліць сваю незалежнасць ад немцаў. Ім было дазволена ўсё, толькі б звесці савецкіх патрыётаў у зман. У Пагосце «народармейцы» правялі мітынг. Адзін з афіцэраў-правакатараў сарваў са сцяны партрэт Гітлера, разарваў яго на шматкі і кінуў пад ногі. Гэтым самым ён хацеў выклікаць давер да сябе савецкіх людзей, якім быў ненавісны Гітлер.

Пасля таго Бачароў і Сямёнаў выдалі загад, у якім прапанавалі ўсім камандзірам партызанскіх атрадаў з'явіцца ў іх распараджэнне з усім асабовым саставам і зброяй...»

Хітрасць акупантаў была выкрыта, карнікам не ўдалося ажыццявіць свае намеры.

Аўтар многа, праўдзіва і цікава расказвае пра пашырэнне партыйнага руху ў тыле ворага, пра яго велізарны ўплыў на насельніцтва. З любоўю згадвае І. Крыскавец рэдактара падпольнай газеты «За Радзіму» Аляксандра Юшкевіча, які 5 мая 1943 года, у Дзень друку, разам з аўтаматчыкамі ўварваўся ў варожыя акопы, ва ўпор расстраляў гарматны разлік. У тым баі ён загінуў. Пра журналіста і разведчыка Аркадзя Манькова, які біўся з ворагам да апошняга патрона. Пра былога юнкора, а потым партызанскага падрыўніка, актыўнага карэспандэнта, здольнага журналіста Міхася Белабародава, які загінуў каля прускага горада Шлаўпенян, калі яму не было яшчэ і 20 гадоў. Пра рэдактара Асіповіцкай падпольнай раённай газеты Паўла Трацэўскага і журналіста Міколу Сідаровіча, вынаходлівых друкароў Пятра Сцяржанава і Саўку Вершука.

З кнігі відаць, наколькі аператыўным і дзейсным было друкаванае слова партызанскіх выданняў, якую важную ролю адыгрывала яно ў барацьбе, бачыш і тую складаную, карпатлівую растлумачальную работу сярод насельніцтва, якую вялі агітатары партыйнага падполля на Магілёўшчыне. У кнізе расказваецца, напрыклад, пра аднаго з лепшых агітатараў партыйнага падполля на Магілёўшчыне Хвядоса Нічыпаравіча Міхалапа.

Хвалюе нарыс «Камісар Пётр Счаслоўскі». Асабліва прачула напісаны старонкі, дзе расказваецца пра гібель слаўнага партызана.

Кніга І. Крыскаўца, як кажуць, густа населена героямі. Мы бачым у справе многіх партызан і сувязных, камуністаў і камсамольцаў, даведваемся пра іх подзвігі.

Аўтар паказвае, як рос і дужэў партызанскі рух на Магілёўшчыне, як партызаны станавіліся ўсё больш і больш небяспечнай для ворага сілай, як прыходзілі да народных мсціўцаў баявы вопыт і гарт, як мацнелі і развіваліся сувязі партызан з насельніцтвам, як ажыццяўлялася партыйнае кіраўніцтва народным змаганнем.

На маю думку, І. Крыскавец здолеў пра ўсё гэта расказаць і прачула, і цікава. Мы атрымалі яшчэ адну каштоўную кнігу аб партызанскай барацьбе.

**І. ІСАЧАНКА,**
былы рэдактар Касцюковіцкай падпольнай раённай газеты і сакратар падпольнага РК ЛКСМБ.

---

Іван Крыскавец. «Сустрэчы ў Цераболі». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.

*Вялікага сына маленькага аварскага народа ведае, бадай, увесь свет.*

*Мудрыя, вясёлыя, сумленныя і страсныя вершы Расула Гамзатава гучаць на розных мовах, на розных мацерыках.*

*У 1972 годзе ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе кніга Расула Гамзатава «Высокія зоры», адзначаная Ленінскай прэміяй. Над перакладамі працуюць многія беларускія паэты.*

*І мне пашчасціла прыемна пакутаваць над кожным радком і словам, радавацца, калі ўдавалася на мове Купалы перадаць думкі і пачуцці выдатнага паэта сучаснасці.*

*Я імкнуўся зберагчы сэнс, натуральнае гучанне кожнага радка, перакласці так, каб не адчувалася, што гэта пераклад. Наколькі гэта ўдалося, мяркуйце самі, дарагія чытачы.*

*Сяргей ГРАХОЎСКІ.*

Расул ГАМЗАТАЎ

## РОДНАЯ МОВА

Я ўспамінаю дзіўны сон
старанна.
Прыснілася мне сёння смерць
мая.
Пад спёкаю ў даліне Дагестана
Свінцом прабіты ледзьве
дыхаў я.

Звініць рака, бяжыць да
акіяну.
Забыты і сябрамі, і раднёй,
Я на зямлі радзімы
распластаны
Ляжу, пакуль не стану сам
зямлёй.

Смяротны холад засціла вочы,
Ніхто мяне не чуе, як знарок,
У вышыні сівы арол клякоча,
І стогнуць лані дзесь
непадалёк.

І каб паплакаць над магілай
ранняй,
Якую не ўдалося абысці,
Няма ні роднай маці, ні
каханай,
І нават простай плачкі не
знайсці.

Так я канаў ад болю і бяссілля,
Але прайшло раптоўна
забыццё,
Бо побач па-аварску гаварылі,
На мове роднай мне на ўсё
жыццё.

Пад спёкаю ў даліне
Дагестана
Я паміраў, а тут удвох вялі
Гаворку пра якогасьці Гасана,
Пра хітрыкі якогасьці Алі.

Услухваюся ў кожны гук і
слова,
І ажываю, як ад дзіўных чар,
І разумею, што ўратуе мова,
А не вучоны доктар ці знахар.

Кагосьці, мабыць, ад бяды
суровай
Чужая мова лечыць напавер,
Калі ж мая загіне заўтра мова,
Дык я гатоў памерці хоць
цяпер.

Я за яе заўжды душой хварэю,
Хай кажуць — наша мова не
ў цане,
Хай не гучыць яна на асамблеі,
Але была і будзе роднай мне.

Каб зразумець Махмуда,
супляменнік
Няўжо чытаць павінен
пераклад?
Няўжо і я апошні той
пісьменнік,
Што піша вершы на аварскі
лад?

Люблю жыццё, люблю я ўсю
планету,
Куточак кожны, а найбольш
сваю
Краіну неабсяжную Саветаў
І па-аварску пра яе пяю.

Яна заўжды ў маёй душы і ў
сэрцы —
Ад Брэста да Камчацкіх
бальшакоў,
Я ўсюды за яе гатоў памерці,
А пахавайце на зямлі бацькоў.

Каб на магіле блізка ад аула,
Каля майго аварскага гнязда,
Успаміналі земляк Расула,
Наступніка Гамзата, што з Цада.

## АДКАЗ НА ТВОЙ ЛІСТ

Сягоння твой ліст атрымаў я па
пошце.
На схіле Цадзінскім, дзе мяккія
травы,
Ляжу і чытаю,
так весела штосьці,
Бо шчыра кахаеш, бо зычыш
мне славы.

Ты хочаш імя маё бачыць
нязменна
На першых старонках газет
і плакатаў,
Каб дыктар вяшчаў, каб афішы
на сценах
Заўсёды крычалі, што аўтар
Гамзатаў.

Мая дарагая,
мне трэба не многа:
Быць роўным з усімі, з кім
побач жыву,
Каб дыхаць паветрам,
каб ты без трывогі
Туліла сівую маю галаву.

Не юныя мы і яшчэ не старыя,
Папрокі, што мне пасылаеш
сярдзіта,
Ламаюць засекі, дзе з даўняй
пары я
Усе нашы надзеі хаваю, як
жыта.

Ну чым жа я лепшы за мудрых
і сталых
Сваіх землякоў, што завуцца
сяляне,
За тых, што праклалі дарогі у
скалах,
За сівых дзядоў на старым
гадэкане?

Ну чым жа я лепшы за
незнакамітых
Сяброў, што запісаны на
абелісках,
На стылых каменнях, на
трэснутых плітах
І ў сэрцах пакінутых родных
і блізкіх?

Я марыў пра славу,
здаецца, учора,
А сёння аж сорам самому
прызнацца,
Бо што яна — слава?
Вяроўка над прорвай,
Што вытрымаць можа, а можа
парвацца.

Чаго ж я жадаю? Работы да
зморы,
Каб рукі мае не павіслі
ў бяссіллі.
А слава? Хай славяцца гэтыя
горы,
Што нас гадавалі, што нас
узрасцілі.

Калі ж я аднойчы забудуся
вельмі,
О людзі, мяне штурханіце пад
бокі,
Спыніце, нібы хлапчука на
вяселлі,
Што выбег наперад,
пайшоўшы у скокі.

●

У чорных зайздроснікаў
шустрыя служкі,
А зайздрасць сумленных нідзе
не міне,
І служкі табе нашапталі на
вушка
Агідныя плёткі і ўсё пра мяне.

Яны у паклёпах не ведаюць
стомы,
І праўдай часамі здаецца
хлусня.
Таму і глядзіш, быццам я
незнаёмы,
Няпрошаны госць, што з'явіўся
да дня.

Ты кніжку гартаеш у змрочным
адчаі,
Нібы мне гаворыш, твой
вырваўся конь.
Калі ж табе выпіць захочацца
чаю,
Сам чайнік вазьмі і пастаў на
агонь.

Мае падарункі ляжаць без
увагі,
Так сумна ад ветру парыпвае
плот,
І толькі гасцінны і поўны павагі
Мяне заўважае расчулены кот.

Ступіў за парог я,
сабака калматы
Ад радасці брэша і круціць
хвастом,
А я, нібы той без віны вінаваты,
Пакінуў аблытаны плёткамі
дом.

Хіба ж не злачынства вось гэтак
сурова
Бязвінных калечыць атрутаю
слоў?
Няхай захлынецца ілжывае
слова
І вернецца радасць у дом наш
ізноў.

## У АХВАХУ

СЯБРУ—МУСЕ МАГАМЕДАВУ

Як толькі сэрца зноў заные,
Давай паедзем у Ахвах,
Праверым мы, ці маладыя,
Ці адгулялі ў жаніхах.

Юнацтва ўспомнім у Ахваху
І зноў,
як некалі даўно,
Закіне кожны з нас папаху
Адной дзяўчыне у акно.
Даведаемся не без страху,
Каго яна кахае з нас:
Чыю далоў шпурне папаху,
Таму дамоў вяртацца час.

...Я ўспамінаю змрок вясновы
І месячныя вечары,
І пра каханую размовы
З хлапцамі на чужым двары.

Тады, яшчэ зусім бязвусы,
Як толькі забурліла кроў,
Я ўсё на дыбачках цягнуўся
Да большых за сябе сяброў.

Як, апынуўшыся з хлапцамі
Пад вечар у адным двары,
Мы выглядалі малайцамі,
Да гэтай помніцца пары.

Лістота з ветрыкам шаптала,
І месяц усміхаўся мне,
Прыціхлі ўсе, як заспявала
Гаранка, седзячы ў акне.

Пра сонца і пра зоры ліўся
І пра каханага той спеў,
Каб толькі любы не спазніўся,
Каб іншых перагнаць паспеў.

Што сэрца трапятала птахам,
Было і ў поцемках відно.



Мал. А. САПЕТКІ.

А хлопцы скінулі папахі
І кожны цэліўся ў акно.

Ад хвалявання ледзь не
стыну—
Цягну шчаслівы свой білет
І, быццам роўны,
кепку кінуў
Я за папахамі услед.

Здалося, гаснуць зорак свечкі,
Здалося, валіцца страха,
Калі папахі, як авечкі
У двор ляцелі з катуха.

І кепка з казырком зламаным
Упала недзе за кусты,
Яе знайшоўшы пад парканам,
Я зразумеў — білет пусты.

А дзеўчына ад спачування
Сказала:
— Хлопчык, слёз не зводзь,
Прыйшоў ты рана на спатканне,
Як падрасцеш, тады прыходзь.

Ад крыўды я дрыжаў і страху,
З двара ўцякаючы праз бэз,
А нехта па сваю папаху
У акно расчыненае лез.

Прайшлі гады, мінула гора,
Змялелі рэчкі на вірах,
Я праз гады, нібы праз горы,
Ізноў прыехаў у Ахвах.

Нявесты,
дзе вы, дарагія,
Ці помніце сяброў былых?
Са мной хлапцы былі другія
І я старэйшы быў за іх.

Усё, як калісь засталося,
І месяц усміхаўся мне,
І на пачатку мне здалося —
Дзяўчына тая ж у акне.

Калі ж з папахамі з аўчыны
Пастала можа дзесяць душ,
Закінуў у акно дзяўчыны
І я свой модны капялюш.

Хлапцы, што ад трывогі млелі,
Апамяталіся, калі
З акна папахі паляцелі
І хмару пылу паднялі.

Амаль пад самыя вароты
Мой капялюш упаў на дол,
Нібы наскрозь прабіты шротам
З вяршыні горнае арол.

І дзеўчына ад спачування
З папрокамі сказала зноў:
— Прыйшоў ты позна на
спатканне,
Чаму раней ты не прыйшоў?

Быў вечар, як тады, харошы,
І зоры бачылі, і лес,
Як хлопец, за мяне малодшы,
У акно расчыненае лез.

Заўжды спяшаюся старанна,
Бо не спяшацца не магу,
Але прыйду то вельмі рана,
То надта позна прыбягу.

# СУМЛЕННЕ КІТАЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

25 верасня спаўняецца дзевяноста гадоў з дня нараджэння вялікага кітайскага пісьменніка - гуманіста, заснавальніка рэалізму ў сучаснай кітайскай літаратуры і мастацтве Лу Сіня (1881—1936 гг.). Савецкі народ высока цэніць творчую спадчыну гэтага цудоўнага мастака.



Лу Сінь адкрыў новую эру ў развіцці кітайскай літаратуры, узбагаціў яе рэалістычныя традыцыі, абнавіў форму і мастацкія прыёмы, стварыў жанр баявой публіцыстыкі, заклаў асновы новай кітайскай літаратурнай мовы. Веды і талент Лу Сіня былі да канца аддадзены барацьбе за баявую літаратуру, заклікаiную актыўна служыць пераўтварэнню грамадства, барацьбе супраць апалітычнага мастацтва, за высокае майстэрства, супраць рамесніцтва, фармалізму і эпігонства.

Сваю творчасць, дзейнасць і барацьбу вялікі пісьменнік прысвяціў інтарэсам працоўных. Выкрываў рабалепства, хлусню, абрушваў агонь сатыры на гамінданаўскіх рэакцыянераў, мілітарыстаў, іх заакіянскіх гаспадароў, каб дапамагчы рэвалюцыйным масам, якія змагаюцца за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Ён выступаў за рэформу пісьменнасці, імкнучыся адкрыць працоўным Кітая, якія гібелі ў непісьменнасці і цемнаце, доступ да скарбаў культуры, актыўна распаўсюджваў у Кітаі лепшыя творы прагрэсіўнай літаратуры і мастацтва свету.

Але савецкія людзі ведаюць Лу Сіня не толькі як выдатнага майстра мастацкага слова. Ён дарагі ім і як інтэрнацыяналіст, сапраўдны друг савецкага народа. Лу Сінь імкнуўся як мага больш поўна і глыбока пазнаёміць сваіх суайчыннікаў з рускай і савецкай літаратурамі. Савецкую літаратуру ён называў «настаўнікам і другам» кітайскага народа, таму што яна «выступае ў імя чалавека», «нясе яму агонь і святло». Прапагандуючы савецкую літаратуру, заклікаў кітайскіх пісьменнікаў «браць узоры ў тых, хто пайшоў наперад раней», бо «ў імкненні людзей да святла няма іншага шляху». Па яго ініцыятыве былі апублікаваны на кітайскай мове творы Л. Талстога, М. Гогаля, М. Горкага, М. Шолахава, А. Серафімовіча, А. Фадзеева, венгерскага пісьменніка Пецёфі, балгарскага пісьменніка Вазава і іншых.

Да 1966 года творы вялікага кітайскага пісьменніка выдаваліся на яго радзіме масавымі тыражамі. Але калі запалыхала полымя так званай «культурнай рэвалюцыі», кнігі Лу Сіня, як і кнігі іншых сапраўдных майстроў літаратуры, аказаліся пад найстражэйшай забаронай. Праўда, улічваючы велізарную любоў у Кітаі да Лу Сіня, афіцыйная прапаганда спрабавала запэўніць, што дражыць спадчынай славутага нацыянальнага мастака. Не грэбуючы скажэннямі і фальсіфікацыяй, яна нават паказвала Лу Сіня «прапагандыстам ідэй Мао Цзэ-дуна».

Абвергнуць усю гэту хлусню няцяжка. Калі б Лу Сінь сапраўды прытрымліваўся «лініі Мао Цзэ-дуна», яго кнігі не былі б цалкам забаронены ў Кітаі нашых дзён. А гэта ж менавіта так і ад гэтага факта нікуды не пойдзеш, як бы там ні выкручвалася пекінская прапаганда. Больш таго, пад рознымі дэмагагічнымі маркамі зняты з экрана ўсе кінафільмы, створаныя па творах Лу Сіня. Забаронены да паказу і біяграфічны кінафільм «Жыццё Лу Сіня».

Усё свядомае жыццё Лу Сінь змагаўся за шчаслівую будучыню свайго народа. Рэальнае ажыццяўленне гэтай мэты ён бачыў у дружбе з краінай Леніна — Савецкім Саюзам.

Савецкая грамадскасць шырока адзначае юбілей Лу Сіня. Творы вялікага кітайскага пісьменніка неаднаразова выдаваліся на мовах многіх народаў Савецкай краіны. Першым творам Лу Сіня, перакладзеным на рускую мову, была яго цудоўная аповесць «Сапраўдная гісторыя А-К'ю», выдадзеная ў Маскве і Ленінградзе ў 1929 годзе. За ёй пайшлі зборнікі апавяданняў «Кліч», «Блуканні», вершаваныя зборнікі. З таго часу ў СССР перакладзены амаль усе кнігі Лу Сіня, масавым тыражом выпушчаны збор твораў пісьменніка. Зусім нядаўна ў выдавецтве «Художественная литература» выйшаў том празаічных твораў Лу Сіня ў серыі «Сусветная проза», прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. За апошні час у СССР выдадзены чатыры фундаментальныя манаграфічныя даследаванні пра выдатнага кітайскага мастака слова.

Усёй сваёй творчасцю — прозай і рэвалюцыйнай публіцыстыкай — Лу Сінь увайшоў у культурнае жыццё чалавецтва. Пісьменнік велізарнага таленту і абаяння, ён блізкі многім народам свету.

Яго творы чытаюцца ў нашы дні ва ўсіх кутках зямнога шара, і толькі ў яго на радзіме, у Кітаі, яны забаронены...

Ён быў мастак глыбока нацыянальны і ў той жа час інтэрнацыянальны. Менавіта таму яго творчасць належыць усяму чалавецтву.

Міхаіл ЦЯПЛІЦКІ,
кандыдат філалагічных навук. (АДН).



Выступаюць мараўскія настаўнікі. Фота Ул. КРУКА.

# ПЕСНЯЙ—ДА СЭРЦА, СЭРЦАМ—ДА РАДЗІМЫ

Гэты старадаўні дэвіз спевакоў Чэхаславакіі, дзе традыцыі ўсенароднай павагі да музыкі і спеваў сягаюць у далёкую мінуўшчыну, нагадаўся нам на канцэрце Акадэмічнага хору мараўскіх настаўнікаў, які адбыўся ў канцэртнай зале Дзяржаўнай філармоніі. Перад слухачамі сталіцы выступаў не зусім звычайны калектыў. Перш за ўсё прыемна ўражае тое, што хор мае сваю працяглую і слаўную гісторыю — ён быў створаны ў 1903 годзе прафесарам Фердынадам Вахам і даволі хутка заслужыў прызнанне—ужо ў 1908 годзе даў першыя канцэрты за мяжой.

Хор — чыста самадзейны, у ім спяваюць настаўнікі пачатковых і сярэдніх школ, выкладчыкі тэхнікумаў і універсітэтаў. Свайму любімаму мастацтву яны прысвячаюць толькі вольны ад заняткаў час. Паступіць у хор, аднак, не надта лёгка — патрабаванні вельмі высокія. Трэба здаць тры экзамены — уступны, рэпертуарны і самы складаны—на права называцца членам калектыву. Затое той, хто прайшоў гэтыя выпрабаванні, часта сам становіцца кіраўніком іншага харавога калектыву, перадаючы эстафету прапаганды мастацтва далей і далей.

За час свайго існавання хор даў больш 1600 канцэртаў—у Чэхаславакіі і амаль ва ўсіх сталіцах і буйных гарадах Еўропы. У 1948 годзе хору прысуджаецца першая прэмія на музычным конкурсе ў Ланголене (Англія), у 1954 годзе — залаты медаль на фестывалі ў Вартбургу (ГДР), праз год — першая прэмія на Дзяржаўным конкурсе па катэгорыі мужчынскіх хораў і першы прыз на Міжнародным музычным фестывалі ў Парыжы. Урад ЧССР узнагародзіў хор мараўскіх настаўнікаў ордэнам Працы і прысудзіў яму дзве прэміі — Пятра Безруча і Дзяржаўную.

Хор пад кіраўніцтвам Антаніна Тучапскага выканаў перад беларускімі слухачамі творы Б. Сметаны, К. Бендля, К. Орфа, Л. Яначака, А. Дворжака, Б. Марціну, Д. Шастаковіча, А. Мойзеса, П. Чайкоўскага, Э. Суханя і інш.

Нам удалося пагаварыць з самым старым і самым маладым членамі калектыву. Раймунду Шчімплу 65 год, з іх 45 ён аддаў хору; Здэнеку Новаку — 24, толькі паўтара года ён у хоры, яшчэ нават не ўсе экзамены здаў. Але абодва з аднолькавым замілаваннем гавораць пра родную песню, якая паланіла іх з дзяцінства.

Пытаемся пра ўражанні ад горада і чуем захопленыя адказы: «надзвычайны цёплы прыём», «горад за такі кароткі час устаў з руін, але выгляд у яго сучасны, еўрапейскі», «прыгожыя вуліцы», «акустыка ў канцэртнай зале цудоўная».

Пасля канцэрта адбылася хвалюючая сустрэча гасцей з артыстамі Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР. Гучалі беларускія і чэшскія песні — такія блізкія і падобныя, як нашы мовы. Хіба патрэбен перакладчык, каб тлумачыць, дзе «жартоўная песня», дзе «жэртаўні пісэнь»?

Пасля сустрэчы мы папрасілі галоўнага дырыжора нашай капэлы Ул. Раговіча падзяліцца ўражаннямі ад канцэрта гасцей.

— Няма ніякага сумнення, — сказаў ён, — што перад намі выступаў калектыў сусветнага класа. Узровень яго майстэрства — зусім прафесійны. Асабліва трэба адзначыць яркую музычнасць, выразнасць рытмічнага малюнка, майстэрства ўвасаблення мастацкага вобраза, мяккае піянісіма. Артысты спяваюць свабодна і лёгка, можна падумаць, што яны імправізуюць на сцэне. Гармонія галасоў.—выключная.

Хор мараўскіх настаўнікаў выступіў у гэты ж дзень перад рабочымі завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь». Над магіламі нашых землякоў, закатаваных гітлераўцамі, чэшскія спевакі выканалі гімн працы сялян і іх пакутам «Араты» П. Б. Фёрстэра.

А. МАЖЭЙКА.

# «Я ВАС БЯЗМЕЖНА ЛЮБЛЮ...»

## ДЖАЗ ДЗЮКА ЭЛІНГТОНА Ў МІНСКУ

Больш як шэсць дзесяткаў гадоў налічвае гісторыя гэтай своеасаблівай з'явы музычнай культуры Злучаных Штатаў Амерыкі, але і цяпер няма адназначнага адказу на пытанне: што ж такое джаз?

Нарадзіўся джаз у негрыцянскіх кварталах Нью-Арлеана і маланкава заваяваў сімпатыі слухачоў сваёй незвычайнай маляўнічасцю і магутнасцю гучання, характэрнай пульсіруючай рытмікай пры параўнальна невялікай колькасці ўдзельнікаў (5—7 чалавек). Цікава, што ўпершыню вялікую папулярнасць негрыцянскія джазбанды атрымалі ў Еўропе і ўжо потым трыумфальна перасеклі Атлантыку.

З часам атрымалі права на жыццё вялікія па складзе выканаўцаў аркеетры. Фарміраваўся новы стыль — «свінг». Гэты тэрмін уключае ў сябе не толькі склад аркестра (5 саксафонаў, 4 трубы, 4 трамбоны і рытм-групу), але і своеасаблівую манеру выканання. «Свінг» пацягнуў за сабой новы прынцып аранжыроўкі і аркестроўкі.

Буйнейшымі прадстаўнікамі новага стылю сталі аркестры Бені Гудмена, які некалькі гадоў назад гастраляваў у Савецкім Саюзе, Глена Мілера, Дзюка Элінгтона і інш.

Квінтэсенцыяй плыняў і напрамкаў джаза вялікіх аркестраў 20-х гадоў становіцца творчасць Дзюка Элінгтона, якая ўвабрала ў сябе ўсе важнейшыя дасягненні мастацтва джаза.

Упершыню шырокая вядомасць прыйшла да яго ў Нью-Йорку, куды Дзюк Элінгтон прыехаў у 1927 годзе са сваім аркестрам як кампазітар і дырыжор. У джазе да Элінгтона на чале аркестра стаяў саліст-інструменталіст.

Важным новаўвядзеннем у аркестры стаў прынцып імправізацыі. Дзюк Элінгтон развіў і давёў да бліскучай дасканаласці імправізацыю цэлых груп аркестра, а часта і ўсяго ансамбля. Роўных у гэтым яму няма і дасюль. У аркестр падбіраюцца музыканты самай высокай кваліфікацыі. Калектыў славіцца такімі музыкантамі, як трубач К. Вільямс, тэнаравы саксафон К. Лэндсфіл, ударнік «маленькі» Джонс і інш.

Творчасць Дзюка Элінгтона ўключае ў сябе больш дзвюх тысяч кампазіцый і стаіць у адным радзе з творчасцю славутых амерыканскіх кампазітараў А. Копленда, Л. Бернстайна, Д. Гершвіна...

Што ж самае характэрнае ў яго музыцы?

Раўнавага імправізацыі і жорсткага каркаса формы. Крыштальнасць гучання ў рамках блюзавых танальнасцей — найбольш характэрных для стылю «свінг». Багацце тэмбравага каларыту розных інструментаў.

Фантастычная паліфанія!

Але галоўнае для Д. Элінгтона змест — настрой, думкі мастака.

21 верасня аркестр даў свой першы канцэрт у Палацы спорту ў Мінску.

Горача прыняты публікай, Д. Элінгтон шчодра знаёміў мінчан са сваёй творчасцю і дзецішчам жыцця — сваім аркестрам.

У канцэрце былі цудоўна выкананы такія буйныя творы, як «Гарлемскае рэха» і славутая «Нью-арлеанская сюіта»,



На гэтым здымку Ул. Крука вы бачыце выступленне артыстаў джазавага аркестра пад кіраўніцтвам Дзюка Элінгтона.

фантазія «Самая цудоўная афрыканка», напісаная для фестываля ў Дакары ў 1966 годзе,—гэта было першае падарожжа Элінгтона ў Афрыку. Прагучалі яго папулярныя п'есы: «Караван», «Флейта», «Сентыментальны настрой» і многія іншыя.

Дзівоснае ўражанне пакідае сямідзесяцідвухгадовы кампазітар, які зараджае сваім іскрамётным тэмпераментам музыкантаў.

Доўга не адпускалі слухачы «герцага джаза», і ва ўзнагароду пачулі сімвалічны «гімн» аркестра—«Экспрэс» Дзюка Элінгтона і яго словы, сказаныя па-руску: «Я вас бязмежна люблю!»

Хочацца, каб ніці дружбы, якія працягваюць праз акіян музыканты, кампазітары, дзеячы культуры і мастацтва СССР і ЗША, рабіліся ўсё больш трывалымі і шматлікімі. Такія сувязі даюць магчымасць лепш пазнаць адзін аднаго.

В. ДАНІЛАЎ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

## НОВЫ АЎТОГРАФ М. НЯКРАСАВА

(Знойдзены не І. Андронікавым)

Аднойчы летнім вечарам
На паркавай дарожаньцы
Гулі адстаўнікі.
Дырэктар парка Чавускі
Па просьбе Шарахоўскага
Сабраў свой паркактыў,
Каб калектыўным розумам
Дайсці да поўнай яснасці,
Каму з шаноўных крытыкаў,
Жывецца лепш за ўсіх.
Адзін сказаў: Бярозкіну,
Другі сказаў: Юрэвічу.
А трэці зашумеў,
Што на крытычным попрышчы
Як сыр у масле свежанькім
Качаецца Бур'ян.
Ніхто не верыў Гурскаму,
Калі ён Адамовіча
На першы сунуў план.
Далі адпор і Карпаву,
Калі ён, не падумаўшы
Бурносава назваў.
Пікейнай камізэлькаю
Пакляўся перад публікай
Адзін з адстаўнікоў,
Што самым шчасным крытыкам
З часоў Адама з Еваю
З'яўляецца Клышко.
Спрачаліся б да раніцы,
Ды нехта прапазіцыю
Разумную падаў:
Паслухаць тых жа крытыкаў
І разам з імі высветліць,
Хто лепш за ўсіх жыве.

Бярозкін дэлегацыю
Сустрэў не дужа ветліва:
— Адкуль такі кагал!
Але гасцям няпрошаным
На іх пытанне важнае
Згадзіўся даць адказ:
— Вы не зайздросьце крытыкам
І хлебу іх нялёгкаму,
Іх творчаму жыццю.
Пахваліш, скажам, генія,
А кандыдат у геніі
Праходу не дае:
— Чаму вы, Саламонавіч,
Як бог, няроўна дзеліце,
Не хваліце мяне!
Ідзеш насустрач гэтаму,
Залічваеш у геніі,
А там шуміць другі...
Сустрэнешся з халтураю
І скажаш праўду чыстую —
Натацыі чакай.
Я раю ўсім таварышам:
— Пішыце пра нябожчыкаў,
Пра творы старадаўнія,
І стане вам лягчэй.

Была кароткай гутарка
З Алесем Адамовічам,
Ён даў такі адказ:
— Не думайце, што доктару,
Вучонаму філолагу,
Лягчэй, чым радавым.
Я шмат гадоў даказваю,
Што многія пісьменнікі
Маглі б і не пісаць.
Я раю тым празаікам,
Каб па жаданню ўласнаму
Яны сабе павыбралі
Зусім інакшы хлеб.
Кажу я гэта Карпаву,
Даказваю Хадкевічу,
Макару Паслядовічу,
А хто згадзіўся з іх
Пайсці насустрач доктару,
Вучонаму філолагу —
Спісаць сябе ў тыраж!

Шчасліваю кашуляю
Не надарыла матухна
І крытыка Клышко.
Не можа, хоць стараецца,
Ён даказаць грамадскасці,
Што значна лепш за Корбана
Пісаў калісь Крылоў.

У Васіля Бурносава
Адстаўнікі цікаўныя
Закончылі паход.
Васіль сказаў таварышам,
Што жыць пачаў шчасліва ён,
Як перастаў пісаць...

З рускай мовы пераклаў
і перадаў «ЛіМу» ў сувязі
з дыскусіяй па крытыцы
Я. ГЕРЦОВІЧ.

## ПРАФЕСІЙНЫ САКРЭТ

У КОЖНАЙ прафесіі ёсць свой сакрэт. А ў чым заключаецца сакрэт вучонага? Вось пра гэта я і хачу расказаць.

Я сам навуковы супрацоўнік. Старэйшы навуковы супрацоўнік. Не па стажу. Пасаду такую займаю. У кабінеце нас чацвёра і ўсе — старэйшыя навуковыя супрацоўнікі.

Мы, гэта значыць, Сцяпан Аляксеевіч Кароль, Ілья Анатолевіч Станарадка, Лада Львоўна Кітабоева і я, Ігнат Іванавіч Задорка, складаем секцыю. А праз сцяну, у суседнім пакоі, яшчэ адна такая секцыя. А разам — аддзел. Працуем над праблемай «Рацыянальнае выкарыстанне гужавой цягі на сучасным этапе ў сельскай гаспадарцы».

Дык вось, мы над гэтай праблемай працуем. Думаем. Сядзіш цэлы дзень і думаеш. За восем гадзін да таго панадумаешся, што аж вочы параспухаюць. Праз кожныя дзве гадзіны да нас заходзіць начальнік аддзела Іван Міхеевіч Катубоўскі і пытае:

— Ну як, хлопцы, надумалі што-небудзь?

Усе маўчаць, рукамі разводзяць.

Я на першым часе, калі толькі ўладкаваўся, хацеў паказаць, што не маю намеру дарма браць дзяржаўныя грошы, нешта думаю.

— Дык я, так сказаць, Іван Міхеевіч... Ведаеце, мне здаецца, што каб...

— Дрэнна думаеце, таварыш Задорка, таму вам і здаецца, — перабіў мяне Іван Міхеевіч і, незадаволены, выйшаў.

Усёй секцыяй на мяне так і накінуліся:

— Такога чалавека пакрыўдзіў! «Мне здаецца... Мне здаецца...»

— Браточкі, — кажу. Чым жа я мог пакрыўдзіць Івана Міхеевіча, калі яшчэ і думку не паспеў выказаць?

— А каму трэба думка твая! Мысліцель!..

У канцы рабочага дня зноў зайшоў да нас Іван Міхеевіч.

— Ну як, надумалі што-небудзь?

— Ёсць, — кажу я.

— Ну, ну, — палагоднеў Іван Міхеевіч.

— Ведаеце, — пачаў я. — Пры сучасным напłыве сельскагаспадарчай тэхнікі гужавая цяга...

— Дрэнна думаеце, таварыш Задорка! — Іван Міхеевіч выйшаў з кабінета, моцна грукнуўшы дзвярыма.

Сцяпан Аляксеевіч скрывіў твар і паказаў мне язык. Ілья Анатолевіч дакорліва паківаў галавой і пакруціў пальцам каля скроні. Лада Львоўна растлумачыла:

— Ідыёт.

«І за што яны на мяне напусціліся? — думаў я. — Конкурс прайшоў, як усе добрыя людзі. Як ні як, кандыдат навук. Я нічога не раблю, дык і яны нічога не робяць. А чорт іх бяры! Хай думаюць самі. А я маўчаць буду».

Так і рабіў. Прыйдзе Іван Міхеевіч, спытае, што надумалі. Хлопцы разводзяць рукамі і я разводжу. І што вы думаеце? На лад справа пайшла. Супрацоўнікі пачалі да мяне хінуцца.

Неяк аднойчы, калі мы атрымалі сваю кандыдацкую зраплату, прабачце, зарплату, як заўсёды зайшоў Іван Міхеевіч і як заўсёды спытаў:

— Ну як, хлопцы, надумалі што-небудзь?

— У мяне ёсць ідэя, — няясмела сказаў я.

Саслужыўцы з дакорам паглядзелі на мяне, маўляў, зноў за сваё. Але Іван Міхеевіч падышоў да мяне і асцярожна паклаў мне на плечы руку:

— Цікава, цікава.

— На двары столькі сонца, Іван Міхеевіч.

— Так, сонца.

— Прапаную выехаць за горад. На возера ці на раку. Там і думацца лягчэй будзе.

— Малайчына! — пахваліў мяне Іван Міхеевіч. — Гэта геніяльна. Зараз жа выязджаем.

Прыехалі на нейкае лясное возера, разбілі палаткі, касцёр развялі, нават злавілі тры ўклейкі, дзвюх плотачак і чатыры акунькі для юшкі. Карацей кажучы, стварылі неабходныя творчыя ўмовы. І тут падзывае мяне да сябе Іван Міхеевіч:

— Скажыце, Ігнат Іванавіч, якім чынам прыйшла да вас такая думка?

— Якая думка? — у сваю чаргу пытаю я.

— Ну, гэтая... э-э-э... выехаць за горад?

— Вельмі проста, без усякага ўсяго.

— Нядобра, таварыш Задорка, утойваць сакрэты ад свайго калектыву. А я думаў, вы падзеліцеся сваім вопытам. Падумайце, таварыш Задорка.

І вось, калі мы з'елі юшку, само сабой разумеецца, не без таго, без чаго юшка не можа быць юшкай, слова ўзяў Іван Міхеевіч.

— Таварышы! — пачаў ён. — Нам даручана распрацаваць глабальную праблему: «Рацыянальнае выкарыстанне гужавой цягі»... Гэта праблема турбуе ўвесь вучоны савет...

Іван Міхеевіч гаварыў доўга і прыгожа. Усе ўважліва слухалі яго. Нават возера прыціхла.

— Нас прызвалі думаць, таварышы. Але думаць трэба разумна, ведаючы, што не кожная думка разумная. Як сказаў нейкі паэт, паэту трэба перабраць тысячу тон славеснай руды, каб адшукаць патрэбнае слова. Мы не паэты. Мы — вучоныя. Нам тысячы мала. Нам трэба мільярды тон думачнай руды, каб адшукаць патрэбную думку. Таму не спяшайцеся выказваць сваю думку. Калі не ўпэўнены, што ваша думка геніяльная, тады лепш маўчыце.

«Дык вось чаму мне не давалі выказвацца!» — нарэшце зразумеў я. А Іван Міхеевіч гаварыў:

— Вы можаце самі вызначыць, якая ваша думка геніяльная? Не, не можаце. Я таксама не заўсёды магу. Гэта пад сілу толькі чалавецтву. Хаця ў апошні час наш супрацоўнік Ігнат Іванавіч Задорка выказаў, я б сказаў, даволі цікавую думку. Давайце папросім яго падзяліцца вопытам.

Усе на мяне паглядзелі так, як на сапраўднага генія, будучага карыфея навукі. Нічога не зробіш. Давялося дзяліцца.

— Таварышы, — сказаў я. — Калі прызнацца шчыра, гэта не мая думка. Гэту думку я прачытаў у вачах нашага паважанага і ўсімі любімага Івана Міхеевіча. Я даўно заўважыў яе ў яго вачах, толькі не мог зразумець. І сёння, калі ў нашай інстытуцкай касе палучаў сваю кандыдацкую зраплату, прабачце, зарплату, перада мной у поўнай яснасці з'явілася гэтая думка. Яна запоўніла мяне ўсяго і ўжо выпіраць пачала з мяне. Але я маўчаў. І вось калі зайшоў да нас Іван Міхеевіч, я зазірнуў яму ў вочы і прачытаў у вачах, што і ён даўно ўжо думае пра тое, што я хачу сказаць. І я сказаў.

— Плагіятар нячасны! — крыкнуў хтосьці.

— Ён спісвае чужыя думкі! — падтрымалі другія.

— Няхай жыве геній Івана Міхеевіча! — выкрыквалі з усіх бакоў.

Усе стоўпіліся каля Івана Міхеевіча, распытвалі, як да яго прыйшла такая думка і як доўга ён насіў яе ў сабе...

Цяпер я займаю пасаду памочніка начальніка аддзела.

Іван ШАЛЬМАНАЎ

## МІМАХОДЗЬ

Іван БАРКОЎ

Хабарніка часам даймала сумленне: ці не замнога бярэ?

□

Лектара цяжка было разгледзець: шмат пускаў пылу ў вочы.

□

Яму нават у кіно не шанцавала: даводзілася драмаць у нязручнай позе.

□

Плагіятараў варта паважаць: яны дапамагаюць некаторым аўтарам стаць вядомымі.

□

Псіхіятр у сваіх дыягназах ніколі не адступаў ад той ісціны, што чужая душа — пацёмкі.

Віктар БАРОДЗІЧ

Яго пераклады гадамі перакладалі з паліцы на паліцу.

□

І шэрым вершам часам даюць зялёную вуліцу.

Аляксандр ШАЎЦОЎ

П'яніца быў скептыкам нават пасля палучкі.

□

Біць у барабан — гэта яшчэ не азначае быць барабаншчыкам.

□

Яму не хапала сёмага пачуцця — пачуцця гумару.

□

Леў любіў тлустых дрэсіроўшчыкаў.

Аляксандр ЛІХАЧ

Рэкламуючы шэрае выданне, фарбаў не шкадуюць.

□

Эфір бязважкі. Але колькі туды ідзе цяжкавагавага!

□

Пячаць раўнадушша лічыць несапраўднай.

□

У фатаграфіі кліентаў здымалі непазнавальна.

Павел ШЫБУТ

## ДЫЯЛОГІ

**КАБ НЕ ГАВАРЫЛІ...**

— *Ты ж такі ціхоня і раптам нахуліганіў?*

— *Каб не гаварылі, што ціхоня: абрыдла ўжо!*

**ЦУДЫ ХІМІІ**

— *Хімія робіць цуды!*

— *Нават маю жонку перайначыла!*

**ПАЗНАЕ...**

— *Як ты сваіх блізнят адрозніваеш?*

— *Адзін любіць марожанае, а другі цукеркі.*

**ЦЕШЧА**

— *У мяне цудоўная цешча!*

— *Вядома, бо з табой не жыве!*

**А Я ДУМАЎ...**

— *Чаго ты, Сымон, так змарнеў?*

— *Зубы баляць.*

— *А я думаў, што захварэў.*

**КАРЫСНАЯ ЛЕКЦЫЯ**

— *І што ты цікавае пачула на той лекцыі?*

— *Уга колькі! Ганна развялася, Марыся выйшла замуж у другі раз, Ціхончыкі купілі «Запарожца»...*

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07915

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.